# Голас Радзімы

№ 4 (2146)
25 студзеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.












Працяглы час многія савецкія прадпрыемствы, іх кіраўніцтва сацыяльнае развіццё сваіх калектываў успрымалі, як нешта другараднае. У першую чаргу пільная ўвага надавалася выкананню вытворчых планаў. Ды хаця б выкананне на справе, а то, бывала, больш на паперы — у шматлікіх справаздачах, дакладах у міністэрскіх кабінетах.

Паступова лічбы — тоны, метры, штукі засланілі жывога чалавека, работніка, якому ўсё гэта і павінна было служыць. І вось, нарэшце, прадпрыемствы зацікавіліся, як рабочыя харчуюцца, дзе жывуць іхнія сем'і, ці здаровыя дзеці. І тады сталі расці новыя жылыя кварталы, дзіцячыя сады і школы, адкрывацца заводскія ці фабрычныя бальніцы, магазіны, сталовыя. Пра адну з іх — на вытворчым аб'яднанні «Інтэграл» у Мінску наш фотарэпартаж. Заканчэнне яго глядзіце на старонцы 3.

НА ЗДЫМКАХ: фрагмент інтэр'ера сталовай; брыгада повараў, якія абслугоўваюць сталовую; у выбары меню дапамагае электроніка; адна з абедзенных залаў.

# АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

**Хацелася б, каб гэтыя словы сталі пастаяннай рубрыкай «Голасу Радзімы». Пад ёю мы мяркуем змяшчаць паведамленні пра дабрачынную дзейнасць нашых суайчыннікаў і іншых замежных грамадзян, у сэрцах якіх зварот грамадскіх арганізацый рэспублікі дапамагчы ліквідаваць вынікі чарнобыльскай аварыі выклікаў не толькі спагаду, а і прагу дзейнасці. Боль нашых сэрцаў перадаўся ўжо ў сэрцы многіх і многіх людзей, якія жывуць за мяжой. Перш за ўсё, вядома, тых, хто звязаны з беларускай зямлёй вузамі наймацнейшай крэўнасці — паходзяць адсюль. Ідуць ахвяраванні на адрас Беларускага таварыства «Радзіма», нашы далёкія землякі пераводзяць у фонд ахвяр Чарнобыля свае грашовыя сродкі, хто колькі можа. Але для нас нават самая маленькая праява дабрачыннасці—вялікая падтрымка.**

**Сёння мы публікуем першую падборку матэрыялаў, якія расказваюць пра добрыя ўчынкі нашых суайчыннікаў.**

## «НАШ БОЛЬ... НАШ ДОЎГ»

Такімі словамі пачынаецца зварот, падпісаны а. Аляксандрам Надсонам, апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў, рассеяных па розных краінах свету. Зварот ходзіць у Мінску па руках у выглядзе ксеракопіі, і той, хто чытаў яго, не можа не сказаць слова ўдзячнасці замежным беларусам ужо толькі за тое, што яны выказваюць спагаду да нашай бяды — аварыі на Чарнобыльскай АЭС і яе трагічных вынікаў. Спагада перарастае у трывогу, таму што «выбух Чарнобыльскай атамнай станцыі 26 красавіка 1986 года павіс злавесным ценем над Беларуссю».

Няшчасцяў многа на свеце, яны адбываюцца амаль штодня, гаворыцца ў звароце. Але цяжка іх параўнаць з Чарнобыльскай аварыяй, таму што, апрача ўсяго іншага, у дачым выпадку мы застаёмся ў поцемку і губімся ў дапушчэннях, не ведаючы ні поўнага яе размеру, ні часу трывання вынікаў, ні канчатковай колькасці ахвяр. Чарнобыльская аварыя з'яўляецца для беларусаў нацыянальнай трагедыяй. І калі не прыняць неадкладныя меры, маштабы яе будуць павялічвацца. Разумеючы, што іх Радзіме, іх народу не справіцца адным з тымі праблемамі, якія паставіла чарнобыльская аварыя, замежныя суайчыннікі павінны выказаць сваю пазіцыю шчыра і дакладна. У звароце а. Надсона яна сфармулявана так:

«Калі ж ідзе пра беларусаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны, дык дапамога ахвярам чарнобыльскай аварыі з'яўляецца іхнім маральным абавязкам, іхнім нацыянальным доўгам. Ніхто не мае права аставацца абыякавым на няшчасце, якое спаткала беларускі народ».

Айцец Надсон паведамляе, што дзеля дапамогі пацярпеўшым ад чарнобыльскай аварыі ў Лондане ўтвораны Камітэт дапамогі беларускім ахвярам радыяцыі (Byelorussian Radiation Relief Appel). Яго мэта—аказаць дапамогу Беларусі лякарствамі і медыцынскімі прыборамі, дазіметрамі, медыцынскімі інструментамі. Арганізатары Камітэта дапамогі беларускім ахвярам радыяцыі, у які ўвайшлі Павел Асіповіч, Джэймс Дынглі, Янка Міхалюк, Аляксандр Надсон і Вера Рыч, спадзяюцца на ахвярную падтрымку з боку беларусаў і іх сяброў ва ўсім свеце.

Апошнія радкі звароту нельга чытаць без хвалявання і добрай надзеі на хуткую дапамогу: «Звычайна людзі пад непасрэдным уражаннем якоганебудзь няшчасця, — асабліва, калі яны былі навочнымі сведкамі, — здольныя на вялікія ўчынкі бескарыслівай дабрадзейнасці. З часам, аднак, памяць аб няшчасным выпадку слабее або і зусім знікае. Толькі ахвяры адны застаюцца са сваім болем, са сваімі ўспамінамі і праблемамі.

**Мы не маем права забыцца аб ахвярах Чарнобыля:** мы павінны на справе паказаць, што яны і іхні лёс блізкія нашаму сэрцу».

Гэтыя словы нараджаюць у нашых сэрцах вялікую надзею.



**У Беларускае таварыства «Радзіма» Марк Кацнельсон завітаў з двума напакаванымі чамаданамі. На самым вялікім былі наклеены дзве белыя стужкі паперы з надпісамі па-англійску. На адной: «Для дзяцей Чарнобыля», на другой: «Дзякуй, «Панам»!**

**Пра тое, што было ў чамаданах, і пра сэнс надпісаў, якія кідаліся ў вочы і выразна чыталіся здалёк, мы раскажам праз пару абзацаў, а цяпер хацелі б вам прадставіць самога Марка.**

**Яшчэ дзесяць гадоў назад жыў ён у Бабруйску, быў добрым спецыялістам, цаваў на многіх аб'ектах, у тым ліку і на будаўніцтве Смален АЭС. Потым з сям'ёй выехаў у ЗША, пасяліўся ў Дэнверы. Там і жыве цяпер. Мае свой бізнес—майстэрню па рамонту аўтамашын. Сюды прыехаў па справах фірмы, якую прадстаўляе і якая даручыла весці дзелавыя перагаворы з нашым Міністэрствам энергетыкі. А візіт у таварыства «Радзіма»—гэта памкненне душы, праява дабрачыннасці.**

**— Я прачытаў газеце ваш зварот аб дапамозе ахвярам Чарнобыля,—раск Марк Кацнельсон,—успомніў родныя мясціны і падумаў: ба нешта рабіць. А тут неўзабаве прыязджае ў госці сястра маёй жонкі. Я ўзрадаваўся і кажу: «Дам табе грошай, каб ты там, у Мінску, перадала іх у фонд Чарнобыля». Потым прыйшоў да думкі, што трэба закупіць лякарствы ці яшчэ што.**

**Пачаў шукаць фірму, якая прадала б дзешавей. Такім чынам выйшаў на «Бэкстэр» — гэта адна з самых буйных фірм у ЗША, якая выпускае розныя фармацэўтычныя вырабы.**

**У «Бэкстэр» Марк Кацнельсон набыў 1 700 аднаразовых стэрыльных шпрыцаў двух памераў, закупіў яшчэ мноства медыцынскіх прэпаратаў і іншага і спакаваў усё гэта ў два вялізныя чамаданы. Збіраючыся ў дзелавую паездку, прыхапіў з сабой гэты багаж.**

**Чаму на адной стужцы было напісана: «Для дзяцей Чарнобыля», відаць, тлумачыць не трэба. А наконт другога надпісу вось што гаворыць наш суайчыннік.**

**— Даведаўшыся, што я вязу і дзеля якіх мэт, авіякампанія «Панам» адмовілася браць з мяне плату за лішнюю вагу, а гэта якніяк дадаткова 130 долараў.**

**Свой дарунак Марк Кацнельсон уручыў па прызначэнню — клінікі Інстытута радыяцыйнай медыцыны, што знаходзіцца ў Аксакаўшчыне, каля Ракава. А там, як мы ўжо і паведамлялі, праходзяць абследаванне і , калі спатрэбіцца, курс лячэння дзеці з тых раёнаў Беларусі, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. Уручаў ён з глыбокім узрушэннем і слязамі на вачах. Ды і ў каго не заб'ецца трывожна сэрца, калі глядзіш на гэтых дзяцей, чыя будучыня непакоіць нас.**



**Марк Кацнельсон чалавек набожны. Ён лічыць сваім маральным абавязкам разгарнуць у Дэнверы работу па збору ахвяраванняў для дзяцей Чарнобыля.**

**— Мне хочацца, каб наша дапамога была не ад выпадку да выпадку, а ішла да вас пастаянна. Там, у Дэнверы, і навокал яго жыве многа нашых суайчыннікаў. Я звярнуся да іх і веру: яны не застануцца глухімі да той бяды, што напаткала наш народ і зямлю.**

**НА ЗДЫМКАХ: Марк КАЦНЕЛЬСОН прывёз у Аксакаўшчыну аднаразовыя шпрыцы і медыцынскія прэпараты; спецыялісты клінікі Інстытута радыяцыйнай медыцыны выказваюць шчырую ўдзячнасць нашаму суайчынніку.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## ЗАЎСЁДЫ ЗАСТАЁМСЯ БЕЛАРУСАМІ

Добры дзень, паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!

Па-першае, хачу шчыра падзякаваць вам за газету, у якой заўсёды знаходжу шмат карыснага і цікавага. Нядаўна, напрыклад, прачытала інтэрв'ю В. Мацкевіча з пісьменнікам Барысам Сачанкам, з якім знаёма па яго кнігах. Адказы Б. Сачанкі на пытанні задавальняюць. Мяне асабліва прымусіла задумацца пытанне, ці можа мець нейкі ўплыў на экалогію беларускай культуры наша эміграцыя? І ў асноўным я згодна з пісьменнікам наконт таго, што беларуская эміграцыя ў значнай ступені асіміляваная. Скажу пра сваё, ваеннае пакаленне эміграцыі. У час знаходжання ў фашысцкіх лагерах мы ўсе — і беларусы, і ўкраінцы — стараліся як мага лепш размаўляць па-руску, да таго прымушала жыццё. І потым тут, у Бельгіі, мы таксама сталі прытрымлівацца адзінай рускай мовы. Але гэта ж не азначае, што сэрцам і душой мы не беларусы!

Мяне вельмі ўзрушыў зварот да суайчыннікаў за рубяжом дапамагчы ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. І нягледзячы на тое, што наша сям'я жыве вельмі сціпла, мы адразу ж вырашылі перавесці на рахунак № 705602 20 тысяч бельгійскіх франкаў. Ад імя аддзялення ССГБ у г. Шарлеруа таксама быў зроблены ўклад на гэты рахунак у суме 5 тысяч бельгійскіх франкаў. Вядома, гэтага вельмі мала. Упэўнена, што мы б змаглі далучыць да гэтай дабрачыннай акцыі і бельгійцаў, калі б, напрыклад, у «Голасе Радзімы» быў надрукаваны зварот па-французску.

COPIE CLIENT
CAISSE GENERALE D'EPARGNE ET DE RETRAITE

| DATE | COMPTE DONNEUR D'ORDRE | COMPTE BENEFICIAIRE | MONTANT |
|---|---|---|---|
| 24/10/89 | 001-0043723-52 | VNECHEKONOMBANKE-BSSR-MINSKA 705602 | FB:20.000.- |

GOROCH Maria Vassilievna
Rue Blanche Tête,II
B-6I60 ROUX (Belgique)

POUR
Bielorousskovo Otdielenye
Fonda Mira,Oul. Zaslavskaya,I0
220004 MINSK(Biélorussie)URSS

Na likvidatsiou posledsvye ot tchernobylskoI avarii

DETACHER ICI

Жадаю беларускаму народу і ўсёй нашай краіне поспехаў у перабудове!

**Марыя ГАРОХ.**

Бельгія.

# REDADA

**En la puerta del apartamento de Vasil Bíkov en Minsk, está dibujada una estrella roja, señal de que ellí vive el ex combatiente, veterano de la Gran Guerra Patria. Todos sus libros, comenzando con "El graznido de la grulla" (1960) y terminando con la última novela corta "En la niebla" (1987), tratan de esta cruenta conflagración.**

**La nueva novela de Vasil Bíkov "Redada", que se publicará en la entrega de enero de la revista "Novi Mir", también está dedicada al pasado, pero por primera vez el escritor elige como tema la época de preguerra. La acción de la "Redada" se desarrolla durante la colectivización. El protagonista de la novela es el campesino bielorruso Jviódor Rovba, uno de aquellos que con su trabajo honesto alimentaban el país. Sabemos bien cómo terminó la redada organizada contra ellos en aquellos años.**

— El pasado, este vicioso pasado — remarca Vasil Bíkov —, deja de existir sólo cuando el pueblo puede reírse de él. Y, en lo que toca a nuestro propio pasado. éste sigue sangrando hasta ahora, por eso no estamos en condiciones de recordarlo objetivamente, sin emociones. Nuestra literatura tiene como objetivo poner las cosas en su lugar, concienciar todo.

**— Al tratar el tema de la colectivización horrosa y sus consecuencias, hablamos y escribimos sobre los inverosímiles sufrimientos del pueblo. Pero quien desposeía a los campesinos ricos de sus tierras y medios de producción era en su mayoría el propio pueblo y no forasteros. Y el hijo de Jviódor Rovba resulta ser el enemigo más implacable y cruel de su padre.**

— Hay que tener en cuenta que el estalinismo atribuyó al viejo principio de "divide y reinarás" un carácter absolutamente totalitario. El pueblo también fue dividido. Y por la simple razón de que todo se fundamentaba en la lucha de clases —los pobres contra los ricos— no era difícil lanzar una parte del pueblo contra otra. Parecía que se lograba el principio de la justicia social, pero de hecho se trataba de la igualación en la miseria. Además, en Bielorrusia se consideraba rico al campesino que tenia dos vacas. Y, lo fundamental, es que en los años 20, en la juventud se formó una capa social poco numerosa, pero muy agresiva. Precisamente el Komsomol y las células del partido llevaban a cabo esta inhumana política de expulsar a los kuláks de sus tierras. lo que en esencia significaba liquidar al campesinado como clase social, por supuesto, en aras de objetivos sublimes.

**— Pero, ¿en qué grado se habrán tergiversado esos ideales para que Rovba concluyera que "el hombre es un ser muy cruel"?**

— El hombre es un ser biológico, que se distingue de la fiera por su conducta consciente, por la moral y el alma, es decir, por aquello que en el transcurso de siglos le inculcaba la religión. Después de la revolución, en vez de la moral religiosa comenzó a implantarse la moral de clase. Su rasgo más preciado era la intolerancia, mientras que la falta de compasión se tomaba como mérito cívico. Cualquier manfestación de humanitarismo. por el contrario, era valorada como debilidad. Se consideraban ejemplares las personas que carecían de estos rasgos "pequeñoburgueses".

**— Esto, en tiempos de paz. ¿Y qué se estimaba ideal en los tiempos de guerra?**

— En la guerra ahorrábamos en todo: armamentos, municiones... Pero nunca economizábamos en lo que respecta a la gente. Hasta hubo un chiste: "¿A Ud. le da lástimo los soldados? Nacerán otros", pero no se puede dejar los cañones al enemigo. Es algo que vale. En las instrucciones a los jefes del eslabón medio no había ni siquiera una alusión a la necesidad de cuidor a los soldados. Incluso el propio Zhúkov era un estratega de la escuela estalinista.

**— Hace poco, leí unas palabras de Danton que me dejaron sorprendida. El señalaba que en la revolución triunfan no los más fieles, sino los más impúdicos. Parece que en 200 años no ha cambiado nada. Y su protagonista fue condenado a muerte porque es un hombre honesto, con un alma limpia y delicada. En mi opinión, tales personas ya no existen...**

— Si, ahora son una rareza. Pero quedaron para siempre en mi memoria. Estoy convencido de que en la vieja aldea patriarcal había mucho más portadores de humanitarismo y sentido común. Para los campesinos la tierra era una especie de forma de existencia y autoexpresión, era todo un mundo. Siendo dueño de la tierra el hombre era independiente. Por eso, naturalmente. la primera preocupación del estalinismo fue doblegar a los campesinos. Resultó que el mundo de que hablábamos desapareció por completo. Ahora, para todos los arrendatarios, cooperativistas y agricultores la tierra existe como medio de lucro. No creo mucho en nuestras medidas, semimedidas y llamamientos actuales. A mi parecer, son inútiles no porque no dan la posibilidad d[illegible] verdaderos dueños de la t[illegible] en pleno sentido de esta palabra, sino porque el campesino tiene atrofiada la necesidad de contar con esa tierra. No veo ninguna salida del atolladero en que nos encontramos por culpa de la [illegible]lectivización. Puede ser qu[illegible] repúblicas del Báltico, que [illegible] 20 años más jóvenes que nosotros, puedan darnos la esperanza de resolver el problema.

**— Como escritor, Ud. surgió en los tiempos del deshielo que siguió al XX Congreso. Aquella era una época feliz para la aparición de talentos. ¿Pero dónde están ahora? ¿Se agotaron por completo?**

— En aquella época nos parecía que las realidades de la vida por su propia cuenta pasaban al lenguaje de la literatura. Posiblemente, no llegamos a las profundidades filosóficas, pero expresándonos con simpleza, tomábamos la delantera con la verdad. Aharo esto no basta. Hoy es bien fácil decir la verdad, pero del arte se require un nivel de expresión artística más alto. Para ello aparte de telento, también se precisa tiempo. Por más que nos enorgullezcamos de la libertad artística adquirida, nos cuesta bastante caro, porque psicológicamente todavia no nos hemos liberado de las cadenas de la autocensura, no hemos alcanzado el grado de libertad que poseen los artistas de los países democráticos de Occidente. Puede ser que las generaciones nacidas hoy serán completamente libres. Pero no estoy seguro...

**— ¿Cree Ud. que por su naturaleza el artista se opone al poder?**

— Por supuesto, debe hacer una opción. Por desgracia, siempre a favor de la burocracia. Por eso, el pueblo se quedó sin idioma y cultura; no tiene defensores.

**— ¿Piensa Ud. que es inevitable la contradicción entre el pueblo y el poder?**

— Puede ser que no, pero la experiencia de Bielorrusia demuestra lo contrario. Al pueblo le inquietan unos problemas, mientras que las autoridades plantean otros objetivos. Además, estos últimas no se promueven en la provincia. Las funciones de las autoridades locales se reducen al cumplimiento de las tareas lanzadas en los Congresos del partido en Moscú, en el Buró Político, en el Comité Central. Pero hay algo sorprendente. Cuando tal o cual dirigente quiere jubilarse, resulta que es una persona culta y honesta. ¿Dónde estaban antes esas cualidades suyas durante toda su carrera?

**— ¿Quiele decir que el poder pervierte a cualquter persona y que la máquina del Estado nivela a todos?**

— Así ocurre en realidad, más aún. al poder llegan después de pasar una selección minuciosa, casi a partir del jardín de la infancia. Y, a pesar de que el Soviet Supremo de la república aprobó una ley de elecciones más progresista, pienso que la burocracia gobernante podría encontrar una salida a tal situación.

**— En su opinión, ¿qué debemos hacer al respecto?**

— Por ahora, no veo ninguna solución. De la crisis en que nos hemos sumido no hay salida por la izquierda, ni por la derecha. Por ahora no podemos encontrar la salida. Es todavía más alarmante, porque da fundamento a muchos para afirmar que son vanos nuestros propósitos de cambiar algo. Antes de la perestroika había muchas cosas viles y asquerosas, ante las cuales la naturaleza humana na puede resignarse. Pero la gente propensa a la estagnación, incapaz de pensar de manera dialéctica, veía en el pasado algo consecuente e íntegro. En las condiciones actuales debe aparecer un sistema completamente nuevo, por ahora desconocido para nosotros. De lo contrario, nos esperan no sólo el estancamiento político y la reacción, sino simplemente la pauperización y la decadencia...

***

Según la costumbre de "los tiempos de estancamiento", quisiera terminar nuestra conversación con un tono optimista. Más aún, existen todos los fundamentos para ello. Personalmente yo, el nombre de Vasil Bíkov lo asocio fundamentalmente con su novela "Los muertos no sienten dolor" publicada en 1966 en dos entregas de la revista "Novi Mir". Se me perdió uno de los números y, de vez en cuando, hojeo el que me quedó. Hasta el último momento considero esta novela corta un ejemplo de la verdad sobre la guerra, e pesar de que ahora, en la época de apertura, me parece un poco romántica e ingenua. El propio autor considera que eludió con bastante delicadeza las cuestiones agudas. Pero en aquel entonces la novela provocó gran ira entre militares de altos rangos y todo un torrente de reprimendas y amonestaciones en la prensa, después de lo cual formó parte de la lista de libros prohibidos. Incluso ni se podía mencionar esta obra sacramental. Hace unos cuantos años. de la recopilación de Vesil Bíkov, preparada para la imprenta, sacaron varias páginas del epílogo, en el que figuraba el título "Los muertos no sienten dolor". En mis manos tengo un ejemplar del libro de Vasil Bíkov "En la niebla", de reciente aparición y regalado a mi por el propio autor. En la portada no está indicado que se publica "Los muertos no sienten dolor". ¡Pero la novela figura en la compilación! 23 años después de un silencio total...

**Olga MARTINENKO**

# EN LA TIERRA NATAL





*El invier[illegible] dornó los bosques vírgenes de Bieloviezh. Los caminos y senderos se cubrieron de nieve. Los vaporosos mantos de nieve se echaron en los claros del bosque. Como adornados con encajes se ven los abedules de blanca corteza. Se aclararon los abetales. Los alisos trazan el cielo con sus negras ramos. Todo el contorno está sumido en un absoluto silencio... Pero, ya de arriba, de las copas de los robles y las cimas de los abetos se percibe la música. Es la melodía del viento que retoza allí con libertad. Son una eterna belleza los bosques de Bieloviezh... Cuantas tormentas pasaron sobre ellos... En distintas épocas sus dueños eran los pricipes rusos, los magnates polacos y la aristocracia lituana. Pero nadie se preocupaba de ellos. Todos los saqueaban en la medida que podían hacerlo. En el año 1627 fue muerto el último uro, en la segunda mitad del siglo XVIII fue aniquilado el ciervo europeo, y en 1918 dejaron de existir los últimos tres osos... Un gran trabajo para el renacimiento de la belleza y la fama de los bosques, el resurgimiento del mundo animal y vegetal lo realizó el personal del vedado que este año cumple 50 años de existencia. En él trabajan silvicultores y expertos en caza, especialistas en diversas especies de animales y plantas. Como resultado de su trabajo en el vedado se puede hallar más de 900 especies de plantas, 285 especies de mamíferos y aves, y en el rebaño de uros — más de doscientos animales. El vedado de Bieloviezh — es un rincón singular de la naturaleza en Europa, de cautivante belleza en cualquier estación del año.*

*EN LAS FOTOS: al claro del bosque diariamente se traen forrajes para alimentar a los uros; más de 900 hectáreas se hallan al cuidado del guardabosque Víctor ADAMCHUK; los uros de Bieloviezh.*

*Fotos: E. KOBIAK*



Redactor de la "Página en español" Demetrio OKULIK.

## ВЯСКОВЫ НАСТАЎНІК ПРА СВАЙГО СЛАВУТАГА ЗЕМЛЯКА

# АДАМ МІЦКЕВІЧ І НАВАГРУДЧЫНА

**Уладзімір Урбановіч — краязнавец-аматар, чалавек, захоплены сваім краем—роднай Навагрудчынай, яе гісторыяй, лёсам славутых людзей, якія тут нарадзіліся і жылі. У мінулым Уладзімір Урбановіч — настаўнік. Да выхаду на пенсію ён са сваімі вучнямі нямала павандраваў па Беларусі. Уражанні ад вандровак леглі ў аснову некалькіх кніжак. Не адзін год Уладзімір Аляксандравіч займаўся вывучэннем жыцця і творчасці свайго славутага земляка, паэта Адама Міцкевіча. Яму ён прысвяціў даследаванне «Адам Міцкевіч і Навагрудчына», урывак з якога мы сёння друкуем.**

*О навагрудскі край —*
*мой родны дом,*
*Праслаўлены Трамбецкага*
*паром,*
*Куды б мяне ні кінуў лёс*
*жыццёвы,*
*Забыць я не змагу твае палі,*
*дубровы.*

Адам МІЦКЕВІЧ.

Так пачынаецца адна з самых ранніх паэм Адама Міцкевіча. «Забыць я не змагу твае палі, дубровы...» — гэтыя словы гучаць як клятва. І сапраўды, паэт не забыў Навагрудчыну, край свайго маленства і юнацтва, да самай смерці. Глыбокая павага да беларускага народа і яго гісторыі, да яго вуснай народнай творчасці, усхваляванае захапленне прыгажосцю нашых краявідаў гучаць у яго баладах і рамансах, у паэмах «Бульба» і «Мешка», «Дзяды» і «Гражына», а апошні паэтычны твор Адама Міцкевіча — паэма «Пан Тадэвуш» прагучала гімнам наРоднаму жыццю і прыродзе Навагрудчыны. Адам Міцкевіч адкрыў свету прыгажосць Свіцязі і Нёмана, расказаў пра Навагрудак і непаўторную пекнату беларускіх рэк, лясоў і лугоў.

### АДКУЛЬ ПАХОДЗІЎ РОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

Прозвішча Міцкевіч — сын Міцькі — беларускага паходжання і вельмі распаўсюджана на Беларусі і ў Літве. Яно часта сустракаецца ў розных старажытных дакументах. Так, у XX томе «Российской исторической библиотеки», у якім змешчаны акты Літоўскай метрыкі з XV—XVI стагоддзяў, больш чым 20 разоў паўтараецца прозвішча Міцкевіч. У рашэннях Віленскага сейма з 1528 года названы дзесяткі прадстаўнікоў навагрудскай і лідскай шляхты з прозвішчам ад імя «Міцька». Многа такіх прозвішчаў сустракаецца і ў спісах навагрудскіх часцей войска літоўскага за 1567 год і іншых дакументах таго часу.

Гісторыкі сцвярджаюць, што большасць з Міцкевічаў ніколі не належалі да шляхты. Аб гэтым яскрава сведчыць вёска Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці, дзе сотні сямей носяць прозвішча Міцкевіч. Гэта ж прозвішча і класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа.

Збяднелай шляхецкай сям'ёй была і сям'я Мікалая Міцкевіча — бацькі паэта. Толькі калі бацьку паэта ўдалося набыць спецыяльнасць адваката і землямера, каб павысіць свой аўтарытэт у шляхецкім асяроддзі, дзе вечна было многа межавых спрэчак і судоў за зямлю, ён кінуўся шукаць доказаў свайго шляхецкага паходжання. У трохвугольніку Навагрудак — Баранавічы — Нясвіж было многа Міцкевічаў, але даказаць сваенства з імі бацька паэта не змог, і таму ён спаслаўся на Міцкевічаў, якія жылі на Лідчыне.

Неабходна нагадаць, што некалі Лідскі і Ашмянскі паветы былі, па словах міцкевічазнаўцаў, «батанічнымі садамі» знатнай і дробнай шляхты. Тут налічвалася больш за 600 шляхецкіх прозвішчаў, сярод якіх былі і Міцкевічы.

Гісторыкі апісваюць, што ў хацінах такіх збяднелых шляхціцаў, жыццё якіх нічым не адрознівалася ад жыцця прыгонных сялян, да столі была прыбіта скрынка (каб не дазлелі мышы), у якой захоўваліся дакументы аб шляхецтве, нярэдка пергаменты з XV стагоддзя. Вось з гэтага «батанічнага саду» шляхты на аснове заметак і ўпамінанняў у старажытных граматах, якія захоўваліся ў радавітай шляхты, Мікалай і вывеў радаслоўную свайго бацькі Якуба Міцкевіча. 10 жніўня 1789 года дакументы гэтыя паступілі на разбор у Мінскі [illegible]говы суд, і 1 мая 1808 го[illegible]ыў выданы дэкрэт аб пры[illegible]анні Мікалая Міцкевіча дваранінам.

У гэтым дэкрэце ідзе гаворка аб трох пакаленнях Міцкевічаў. Прадзедам паэта быў Крыштоф-Рымв[illegible] Міцкевіч родам з Радунс[illegible] парафіі Лідскага павета. Сваю зямельную спадчыну ён адступіў родным, а сам пераехаў у Навагрудскі павет. У дэкрэце адзначана, што продкі Адама Міцкевіча мелі гаспадаркі і жылі ў вёсках Осава, Валеўка, Гарбатовічы, Скробава і Завоссе. Усё гэта пацвярджае архіўнымі дакументамі польскі гісторык Тэадор Вяржбоўскі ў кнізе «З доследаў над Міцкевічам і яго творамі», якая ў 1916 годзе выйшла ў Варшаве.

У гэтым даследаванні гаворыцца, што род Адама Міцкевіча бярэ свой пачатак са старажытнага літоўска-беларускага роду Рымвідаў, які ўжо вядомы ў пачатку XV стагоддзя. У І-й Грамаце Гарадзельскай уніі 1413 года, у якой 47 польскіх феадалаў надзялілі 47 феадальных родаў Вялікага княства Літоўскага сваімі гербамі і тым самым прымалі іх у свае гербавае брацтва, Рымвіды-Міцкевічы былі прыпісаны да герба Гжымала. З тых часоў род Рымвідаў-Міцкевічаў даволі часта сустракаецца ў розных дакументах на працягу амаль трох стагоддзяў.

### БАЦЬКІ ПАЭТА

Мікалай Міцкевіч, бацька паэта, нарадзіўся ў 1764 годзе. Працаваў ён адвакатам і землямерам пры навагрудскім судзе. Яму, дробнаму шляхціцу, яго братам і сястры належала маленькая вёска Завоссе з некалькімі сялянскімі дварамі. Службовыя справы прымушалі адваката ўвесь час жыць у Навагрудку, таму ён прадаў сваю частку Завосся, купіў у горадзе пляц і ў 1804 годзе пачаў будаваць дом.

Мікалай быў чалавекам выключнай чэснасці і справядлівасці, прагрэсіўных поглядаў, удзельнічаў у паўстанні Тадэвуша Касцюшкі, як адвакат часта заступаўся за прыгонных сялян, быў начытаны, любіў літаратуру, нават сам спрабаваў складаць вершы.

Барбара Маеўская, маці Адама Міцкевіча, нарадзілася ў 1767 годзе ў Чамброве, што непадалёку ад Валеўкі (цяпер тут размешчана валеўская бальніца). Бацька яе, Матэвуш Маеўскі, быў эканомам у маёнтку, які належаў навагрудскаму суддзі Юзафу Узлоўскаму. Маеўскі верна служыў свайму гаспадару некалькі дзесяткаў гадоў і ў Чамброве дажываў сваю старасць. Яго дачка, маладая, прыгожая Бася (так Барбару звалі ў сям'і), жыла з бацькам і выхоўвалася пад наглядам жонкі суддзі. Тут прайшлі яе дзіцячыя і дзявочыя гады. Дзяўчынку навучылі чытаць і пісаць па-польску, шляхецкаму этыкету і культурным паводзінам, выхавалі ў глыбока рэлігійным духу. Басі прыходзілася ў асноўным выконваць дамашнія работы і прыслужваць пані. Па натуры Барбара была чалавекам сціплым і лагодным, чулым, стрыманым і знаходлівым, выключна чэсным і справядлівым.

У доме суддзі Юзафа Узлоўскага часта бываў малады адвакат Мікалай Міцкевіч. Ён палюбіў прыгожую, хаця і беспасажніцу, Басю і ажаніўся з ёю.

Барбара Маеўская была сапраўдным сябрам і паплечнікам свайго мужа. Яна гадавала пяць сыноў: Францішка, Адама, Аляксандра, Ежага і Антона (апошні памёр у дзяцінстве); эканомна вяла дамашнюю гаспадарку. Усе былі дагледжаны, у сям'і панавала дружба, добразычлівыя адносіны паміж дарослымі і дзецьмі.

Сям'я ў асноўным жыла ў Навагрудку, а на святы, вясною і летам маці з дзецьмі ехала ў Завоссе. Толькі ў 1806 годзе ўсе на пастаянна пераехалі ў горад у свой дом. Але бацька пачаў часта хварэць, менш працаваў у судзе. Матэрыяльныя ўмовы з кожным годам пагаршаліся. 16 мая 1812 года на 48 годзе жыцця Мікалай Міцкевіч памёр. На руках у Барбары Міцкевіч, жанчыны без якой-небудзь прафесіі, пасля смерці мужа пазбаўленай усякіх даходаў, засталіся чатыры сыны-падлеткі. Усе яны вучыліся ў Навагрудскай даміканскай школе.

Як жыць далей?

Маці здала ў арэнду дом, а сама з дзецьмі перабралася жыць у флігель, адмовілася ад прыслугі. І дзеці не пакінулі маці ў бядзе: Францішак пайшоў працаваць у бацькаву адвакацкую кантору, Адам стаў зарабляць прыватнымі ўрокамі і перабраўся жыць да дзядзькі Медарда Растоцкага ў вёску Рута, якую будучы паэт палюбіў на ўсё жыццё і пазней апісаў у сваёй першай баладзе «Люблю я».

Апошнія восем гадоў жыцця ма[illegible] паэта былі вельмі цяжкі[illegible] бязрадаснымі. Памерла ян[illegible] кастрычніка 1820 года, калі Адам Міцкевіч займаўся ўжо на другім курсе Віленскага універсітэта.

### КАЛІ І ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ АДАМ МІЦКЕВІЧ

[illegible] лютага 1799 года Адама Міцкевіча ахрысцілі ў Навагрудскім фарным (парафіяльным) касцёле. Але ў акце хрышчэння не назвалі ні даты, ні месца нараджэння. Гэта выклікала сярод біёграфаў паэта спрэчкі: адны даказвалі, што паэт нарадзіўся 24 снежня 1798 года па старому стылю, другія — у гэты ж дзень, але па новаму стылю. Спрэчку вырашыла сямейная традыцыя і сябры Адама: дзень яго нараджэння заўсёды адзначалі на куццю, 24 снежня старога стылю, у дзень, паводле святцаў, Адама і Евы. Цяпер ва ўсіх энцыклапедыях і падручніках літаратуры значыцца, што Адам Міцкевіч нарадзіўся 24 снежня 1798 года (без спасылкі на стыль календара).

А вось месца нараджэння паэта па сённяшні дзень дакументальна не пацверджана. Пры жыцці паэта ўсе беззаперэчна месцам нараджэння называлі Навагрудак. Але пасля смерці Адама Міцкевіча ў некаторых некралогах было названа Завоссе. Думкі біёграфаў разышліся. Уладзіслаў Сыракомля месцам нараджэння паэта называў вёску Асавец, Вінцэсь Каратынскі — Навагрудак, старэйшы брат Адама Францішак — карчму Выгада (чвэрць мілі ад Завосся), а малодшы брат Аляксандр і сын паэта Уладзіслаў — Завоссе. Нарэшце, даследчыкі, супаставіўшы шматлікія факты, месцам нараджэння Адама Міцкевіча назвалі Завоссе, хаця дакументамі гэта не пацверджана.

Завосеўская сядзіба ў той час складалася з жылога дома, пабудаванага ў стылі шляхецкіх двароў: з высокім саламяным дахам, ганкам з двухсхільнай стрэшкай, якую падтрымлівалі дзве калоны, і прамавугольнымі, у шэсць шыбаў вокнамі. Побач стаяў свіронак, ніжні паверх якога служыў каморою, а верхні (з маленькім балкончыкам)—жыллём. Адам успамінаў, што вясною і летам там звычайна спалі дзеці. Воддаль размяшчаўся флігель і іншыя гаспадарчыя пабудовы.

Гэта ўсё вядома нам паводле малюнкаў сябра Адама Міцкевіча Напалеона Орды і выкладчыка Навагрудскай гімназіі Эдуарда Паўловіча. Апошні апісаў і ландшафт Завосся: «Сядзібу Міцкевічаў, размешчаную ў нізіне, якая з'яўляецца працягам вялікіх лугоў, выганаў і балот каля Калычэўскага возера, з аднаго боку, а з другога ў падножжа ўзвышшаў, якія цягнуцца з поўдня, прыкрывае гара Жарнава, парослая лесам». Гэтае апісанне дакладна супадае з апісаннем Завосся ў баладзе Адама Міцкевіча «Тукай».

Цяпер тут не захавалася ніводная будынка. Толькі на месцы завосеўскай сядзібы ўзвышаецца сціплы абеліск, надпіс на якім паведамляе, што 24 снежня 1798 года тут нарадзіўся Адам Міцкевіч.

### ДЗЯЦІНСТВА ПАЭТА

Дзе і калі нарадзіўся паэт, мы ўжо ведаем. Але дзе і як праходзіла яго дзяцінства, у якім асяроддзі ён рос, аб гэтым гісторыя захавала вельмі скупыя звесткі. Ведаем толькі, што паэт называў сваё дзяцінства «сельскім і анельскім».

Уладзімір УРБАНОВІЧ.
(Заканчэнне будзе).

---





**З жывапісных палотнаў вядомага беларускага мастака Алеся Марачкіна можна скласці выяўленчы летапіс нашай зямлі. Многа гадоў ён з натхненнем працуе над серыяй «Вядомыя дзеячы гісторыі і культуры Беларусі». Князь Вітаўт і Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі і Сымон Будны, Усяслаў Полацкі і Рагнеда, Кастусь Каліноўскі, Максім Багдановіч, Іван Луцкевіч... Створаная ім партрэтная галерэя ў бліжэйшы час папоўніцца новай работай. Напярэдадні 500-годдзя з дня нараджэння беларускага першадрукара, асветніка і вучонага Францыска Скарыны мастак завяршае жывапіснае палатно «Размова аб вечнасці. (Ф. Скарына і Парацэльс)».**

**НА ЗДЫМКАХ: Алесь МАРАЧКІН у час работы над новым палатном; «Размова пра вечнасць. (Ф. Скарына і Парацэльс)» — новая работа мастака.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## РАЯЦЦА ДОЙЛІДЫ

# КАБ ГОРАД МЕЎ СВАЁ АБЛІЧЧА

Выязныя пасяджэнні творчых саюзаў Беларусі ад нядаўняга часу робяцца звыклымі. Цяпер штораз часцей не архітэктары, кампазітары, пісьменнікі збіраюцца ў сталіцы, каб паслухаць парады свайго кіраўніцтва, а наадварот — апошняе едзе ў вобласці шукаць і абмяркоўваць мясцовы вопыт. Асабліва важна ўбачыць на свае вочы творы калег — архітэктарам. Каля двух гадоў назад Саюз архітэктараў БССР правадзіў у Гродне выязное мерапрыемства, прысвечанае развіццю рэстаўрацыйнай справы. А летась, восенню, у нас адбылося выязное пасяджэнне прэзідыума гэтай арганізацыі. Мэтай яго была дапамога калегам-архітэктарам, савецкім і партыйным органам у развіцці вёсак і гарадоў Гродзеншчыны, у паляпшэнні іх вонкавага выгляду, эстэтызацыі жылога асяроддзя.

Азіраючыся сёння назад, можна адзначыць, што пры забудове нашых вёсак не было зроблена буйных памылак, як у гарадах. (З гэтага пачалася размова на пасяджэнні). Зразумела, што сям-там захапіліся і шматпавярховымі дамамі, не ўласцівымі для жыццёвага ладу вяскоўца, але ў цэлым на сяле ўвесь час пераважала будаўніцтва менавіта сядзібнага жылля. У горадзе ж, наадварот, дагэтуль не існуе сацыяльнай мадэлі жытла, у якім бы чалавек адчуваў сябе ўтульна. І пакуль кожная сям'я не зможа стаць заказчыкам сваёй будучай кватэры, без такога сацыяльнага заказу з боку народа жылыя гмахі ў гарадах будуць заставацца безаблічнымі, шэрымі.

Ключ да вырашэння гэтае праблемы адшукаць цяжка, але магчыма. Як адзначалася, дзеля гэтага важна, каб у працы, выкананай архітэктарам, усё было суладна паміж сабой: ландшафт, інтэр'ер і дызайн. У якасці станоўчага прыкладу пры гэтым называлася гасцініца «Гродна» з рэстаранам і побач — кінатэатрам «Кастрычнік», забудова ў вёсцы Вавёрка Лідскага раёна і ў гарадскім пасёлку Іўе. Неабходна таксама развіваць і вытворчую базу будаўніцтва, паляпшаць яго якасць і майстэрства саміх будаўнікоў.

Але пакуль на будоўлі пануе дыктат вытворцы, якому і заказчык, і праекціроўшчык мусяць падпарадкоўвацца. У выніку гэтага дамы-блізняты можна сустрэць не толькі па ўсёй нашай вобласці, але і ў суседняй — Брэсцкай. Як жа сапраўды кварталы забудовы аднолькавай — 90-й серыяй дамоў рабіць непадобнымі адзін да аднаго? Гэтага можна дасягнуць, калі дамагчыся перапрафіліравання асобных блок-секцый, шырока ўжываць для аздаблення жылля і двароў камень, кераміку, дэкаратыўны бетон.

Зрэшты, усё са сказанага пакуль, на жаль, застаецца на ўзроўні пажаданняў. А што ўжо ўдалося зрабіць дзеля таго, каб нашы вуліцы не выглядалі гэтак паныла? Добра забудоўваецца цагля[illegible]нельнымі дамамі вуліц[illegible]кага, нязвыклымі для горада ўздымаюцца паверхі на праспекце 60-годдзя Кастрычніка, невысокія камяніцы з чырвонай цэглы ў мікрараёне Румлёва аздоблены падстрэшкамі з дахоўкі — цалкам у традыцыі кварталаў старога горада. У інстытуце «Гроднажылбуд» спраектаваны маналітны 16-павярховы дом, у бліжэйшы час будуць выкананы чарцяжы дзіцячага сада і двух 18-павярховых дамоў для маласямейных, якія таксама будуць будавацца маналітным спосабам, новым для Гродна. Будуць выпраўляцца памылкі і ў невялікіх мястэчках — малапавярховыя дамы добра спалучаюцца са старой, таксама невысокай забудовай, якая склалася гістарычна.

Адзначаўся нізкі ўзровень шмат якіх інтэр'ераў на вёсцы, дзе іх афармленнем займаюцца кааператары і самавукі. Тое ж можна сказаць і аб афармленні дарог. Цяпер усе падобныя працы будуць разглядацца абласнымі экспертамі з толькі што створанага мастацкага савета.

Шмат было сказана і пра тое, як мяркуецца рэканструяваць стары цэнтр Гродна, але пра гэта ў нашай газеце ўжо паведамлялася. Размова ішла і аб нездавальняючым стане вулічнай рэкламы і патрэбе ўзяць гэтую справу ў адны рукі.

«Вельмі нізкі мастацкі ўзровень пано на гмаху завода аўтамагнітол», — заўважыў адзін з прамоўцаў. Горад прайграе ад свае беднасці на скульптуру, так і не мае ён помніка, які мог бы стаць сімвалам Гродна. У сувязі з гэтым была выказана надзея на тое, што такім сімвалам можа стаць помнік Кастусю Каліноўскаму.

**С. АСТРАЎЦОЎ.**

## АКЦЁРЫ І РОЛІ



**Прыхільнікі Беларускага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа добра знаёмыя з работамі заслужаных артыстаў БССР Святланы АКРУЖНОЙ і Баляслава СЯЎКО [на здымку]. Ян[illegible] заняты ў галоўных ролях [illegible]гіх спектакляў тэатра, такіх, як «Праходны бал», «Развітанне ў чэрвені», «Маскоўскія канікулы», у камедыі французскага драматурга П. Шэно «Будзьце здаровы!». Акцёры ствараюць запамінальныя, яркія вобразы сваіх герояў. Беларускі акадэмічны тэатр імя Я. Коласа пастаянна абнаўляецца. Амаль кожны год сюды прыходзіць маладое папаўненне. І Святлана Акружная, і Баляслаў Сяўко шмат увагі надаюць вучобе будучых артыстаў, дапамагаюць шліфаваць ім сваё майстэрства.**

**Фота Д. КЛІМАНСКАГА.**

## 1990 ГОД АБ'ЯЎЛЕНЫ ЮНЕСКА ГОДАМ АНТОНА ЧЭХАВА

# «НЕ ПРАГЛЕДЗЬЦЕ ЖЫЦЦЁ!»

Пры жыцці Антона Чэхава лічылі «несур'ёзным літаратарам» нават некаторыя разумныя крытыкі. Вялікія ж пісьменнікі ацанілі Чэхава адразу. Леў Талстой назваў яго «непараўнаным» мастаком і з пункту гледжання формы ставіў вышэй за Тургенева, Дастаеўскага і самога сябе. Максім Горкі гаварыў, што Чэхаў дасягнуў мяжы мастацкай прастаты і з ім не можа сапернічаць у гэтым сэнсе ніводны пісьменнік. Уладзімір Караленка назваў рэалізм Чэхава «звышрэалізмам».

Высока ацанілі творчасць Чэхава Джон Галсуорсі, Бернард Шоў, Томас Ман, Эрнэст Хэмінгуэй. «Наўрад ці існуе ў нашы дні хоць адзін французскі раманіст, які рашыўся б сцвярджаць, што не адчуў на сабе прамога ўплыву Чэхава»,— пісаў вядомы французскі літаратар Вяркор.

Сёння Чэхаў асабліва папулярны. І не толькі ў Расіі. Яго міжнароднае прызнанне пастаянна расце. Яго кнігі выдаюцца і перавыдаюцца. У сучасны момант ён лічыцца самым «іграемым» драматургам у свеце.

У чым прычына такога поспеху? Напэўна, у тым, што Чэхаў на пачатку новага стагоддзя адчуў з усёй вастрынёй тое, што сёння, у канцы стагоддзя, зведваюць і адчуваюць мільёны людзей.

Ён не належаў да кансерватараў. Ён не быў і лібералам. Ён выступаў супраць ілжы, насілля, супраць прыніжэння чалавека.

У наш трывожны, напружаны час неяк па-новаму чытаюцца яго невялікія навелы: «Чалавек у футляры», «Палата № 6», «Дом з мезанінам», «Унтэр Прышыбееў», «Сумная гісторыя»... Персанажы чэхаўскіх твораў гавораць часам амаль таксама, як і людзі сённяшняга дня. Іх хвалююць тыя ж самыя праблемы. Вельмі злабадзённа, напрыклад, рэпліка героя апавядання «Агрэст» (1898) Івана Іванавіча: «Свабода — гэта дабро, гаварыў я, без яе нельга, як без паветра, але трэба пачакаць. Так, я гаварыў гэта, а цяпер пытаюся: у імя чаго чакаць? У імя якіх меркаванняў? Мне гавораць, што не ўсё адразу, усякая ідэя ажыццяўляецца ў жыцці паступова, у свой час. Але хто гэта гаворыць? Дзе доказ, што гэта справядліва? Вы спасылаецеся на прыродны парадак рэчаў, на законнасць з'яў, але ці ёсць парадак і законнасць у тым, што я, жывы, думаючы чалавек, стаю над ровам і чакаю, калі ён зарасце сам ці зацягне яго глеем, у той час як, магчыма, я мог бы пераскочыць праз яго ці пабудаваць праз яго мост? І зноў-такі, у імя чаго чакаць? Чакаць, калі няма сіл жыць, а між тым жыць трэба і хочацца жыць!»

Чэхаў ніколі не крытыкуе. Ён паказвае. Са спачуваннем. Іншы раз з лёгкай усмешкай. Іншы раз без усмешкі. На некалькіх старонках стварае гісторыю чалавечага жыцця і прапаноўвае чытачу параўноўваць, супастаўляць, думаць пра мінулае, задумацца пра будучыню.

З палохаючай прастатой паказвае ён жах штодзённасці — самай распаўсюджанай хваробы чалавецтва. На дзвюх-трох старонках маладзенькая вясёлая дзяўчына з ямачкамі на шчоках ператвараецца ў пажылую змрочную мяшчанку. Рамантычны юнак, поўны светлых надзей, становіцца самазадаволеным домаўладальнікам. Жыццё тоне ў дробязях, растрачваецца без сэнсу і мэты. І чэхаўскі дзядзька Ваня з адчаем пытаецца: колькі мне засталося яшчэ да шасцідзесяці?

Чэхаў не высмейвае сваіх герояў. Ён піша пра іх хутчэй спагадліва. Ён не чытае маралі. Ён толькі перасцерагае: не прагледзьце жыццё!

Гэты заклік таксама сучасны. І сёння, як і ўчора, працягваецца ў душы чалавека барацьба двух імкненняў: жадання быць лепшым і жадання лепш жыць. І сёння, як і ўчора, людзі прывыкаюць да бяздзейнасці, растрачваючы сябе па дробязях, падманваючы ўласныя цудоўныя надзеі. Бесклапотнасць прыводзіць да тугі. Раўнадушша— да пошласці. І чалавек становіцца ахвярай уласнай бязвольнасці, абыякавасці. Спадзяецца толькі на выпадак.

«Не прывыкайце!»—як бы папярэджвае нас Чэхаў. Не дазваляйце шэраму, абрыдламу існаванню завалодаць вамі. Для таго каб па-сапраўднаму жыць, трэба дзейнічаць. Без гучных слоў і доўгіх прыгатаванняў. Інакш абавязкова надыдзе той самы ракавы дзень, калі прыйдуць «сячы вішнёвы сад», — дзень расплаты за слабасць і раўнадушша.

Гэты дзень прыходзіць да многіх. Студэнты, урачы, мілыя дзяўчаты, гордыя юнакі, вучоныя мужы... Адны прагледзелі жыццё ў пагоні за багаццем. Іншыя—у бяздумным пакланенні ідалу аўтарытэту. Для трэціх сэнсам існавання стаў куст агрэсту. Чацвёртыя прагледзелі шчасце ў вучоным пустэльніцтве. Пятыя — у пастаянным чаканні...

І Чэхаў зноў памяркоўны. Ён не выкрывае сваіх бязвольных герояў. Яму крыўдна, што чалавек не стаў Чалавекам. Жыццё без светапогляду — цяжар, жах, гаворыць Чэхаў. Трэба ведаць, для чаго жывеш, ці ўсё глупства.

Бунін пісаў, што галоўны герой п'ес Чэхава—вечнасць. Чэхаў амаль фізічна адчувае знішчэнне часу. «Не прагледзьце жыццё!» —яшчэ раз папярэджвае ён. Цаніце адведзеныя вам дні.

Чэхаў — прызнаны майстар кароткага апавядання і літаратурнага афарызма. Сэнс яго невялікі навел заўсёды глыбейшы, чым знешнія межы тэмы. У гумарыстычных апавяданнях ён выказваў найглыбейшыя думкі. У смешных мініяцюрах ствараў манументальныя вобразы.

Яго апавяданні называюць маленькімі раманамі. Адным штрыхом малюе ён карціну. Адным намёкам стварае характар. Нават інтанацыі яго фраз поўныя зместу. Чэхаву даволі двух радкоў, наспех занесеных у блакнот, каб стварыць перспектыву характара, вобраз. Вось дастаткова характэрны прыклад: «Жонка плакала. Муж узяў яе за плечы, страсянуў, і яна перастала плакаць». «Паравярніце тэлескоп — будзе мікраскоп»...

Чэхаў не любіў юбілеяў. Ён высмейваў іх у сваіх творах. 130-годдзе з дня нараджэння вялікага пісьменніка — не прычына для фармальных урачыстасцей, а яшчэ адна магчымасць задумацца аб сэнсе свайго жыцця, не прагледзець яго. Чэхаў дапамагае нам у гэтым сёння. Перад вачыма зноў паўстаюць героі і персанажы «Трох сёстраў», «Дзядзькі Вані», «Дамы з сабачкам», «Палаты № 6», «Дома з мезанінам»... І становіцца зусім ясней неабходнасць Чэхава, без якога нельга ўявіць не толькі рускую і сусветную літаратуру, але і ўсё наша звычайнае жыццё.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

